Антон Луцкевіч.

# ПОЛЬСКАЯ ОКУПАЦЫЯ У БЕЛАРУСІ.



ВІЛЬНЯ — 1920 г.
Друкарня Кооп. Т—ства «ДРУК». Троцкая, 13.

**Антон Луцкевіч.**

# ПОЛЬСКАЯ ОКУПАЦЫЯ У БЕЛАРУСІ.

Прыкрываньне самалюбных мэт пануючых клясаў пекнымі клічамі і гутаркай аб інтарэсах і жаданьнях народных—гэта характэрная адзнака палітыкі буржуазных дзяржаў. „Агульная карысьць“ тамака неяк дзіўна абяртаецца ў карысьць заможных клясаў. Народ, нават праліваючы сваю кроў дзеля сьветлых ідэалаў, часта несьвядома служыць інтарэсам сваей буржуазіі.

Гэткай дарогай пайшла ў сваей палітыцы і ўваскросшая Польшча. Польская буржуазія, польскіе зямляўласьнікі і капіталісты, сільные эканамічна і багатые культурнымі сіламі, здалелі тамака захапіць уладу ў свае рукі. І вось мы бачымо дзіўную на першы пагляд праяву: народ-мучанік, народ, каторы сто гадоў цярпеў страшэнную няволю, ў мамэнт свайго вызваленьня апірае будову новага жыцьця на гэткіх ненавісных палітычных асновах царскае Расеі! Панаваньне заможных клясаў становіцца для польскага народу такім-жа цяжкім, як і для братніх суседніх народаў,—а ў першы чарод для беларусаў.

Беларускі народ—гэта народ сялянскі, народ рабочы. Сваей нацыянальнай буржуазіі, ён цяперака зусім ня мае, затое над ім ад вякоў панавала буржуазія чужацкая—польскіе паны-зямляўласьнікі. З імі ён заўсёды змагаўся: у старых часох прылучаючыся да паўстанчаскіх рухаў на Украіне, у навейшых—арганізуючыся і ладзючы прэці паноў эканамічные забастоўкі, ўрэшці—прынімаючы ўчасьце як у агульна-расейскай, так і ў краёвай палітычнай і соцыяльнай рэвалюцыі.

Гэнае змаганьне, гэная барацьба сталася асабліва вострай пасьля таго, як у сьнежні 1917 году ўвесь беларускі народ аб'яднаўся на Усебеларускім З'езьдзі ў Менску і вустамі каля 2.000 дэпутатаў высказаў прад усім сьветам сваю волю. Народ заявіў, што ў межах Беларускае Народнае Рэспублікі ўся ўлада і ўсе зямельные абшары павінны належаць да працоўных мас.

Абапертае на гэткіх фундамэнтах беларускае дзяржаўнае будаўніцтва ў першы чарод нанасіла ўдар польскай зямельнай буржуазіі ў Беларусі. Адабраньне дворных зямель нішчыла самую аснову матэрыяльнага дабрабыту польскага панства, а пераход усяе ўласьці ў рукі народу назаўсёды пазбаўляў польскую краёвую буржуазію надзеі на панаваньне. Вось, на ратунак польшчыны ў Беларусі ад гэткай небаспекі і пасьпяшыла ўваскросшая Польшча.

Першы пайшоў на падмогу польскім дваром генарал Довбор-Мусьніцкі. Выступіў ён як дабраволец, бо пад той час польскі ўрад ня меў яшчэ сілы і магчымасьці дзеля барацьбы з народам беларускім. Войска Довбор-Мусьніцкага, гэная зьбераніна котррэвалюцыянераў і часта цёмных фігур з усяе Расеі, заняло некалькі беларускіх паветаў (ігуменскі, бабруйскі, магілёўскі і інш.) і агнём і мячом пачало тамака тушыць народны рэвалюцыйны рух. Як паказваюць рэляцыі Беларускае Рады ў Бабруйску, пасыланые Народнаму Сэкрэтарыяту ў Менск, аружные банды „давборчыкаў" рабавалі па вакалічных вёсках дабро людзкое, „караючы" сялян усюдах, дзе хоць крыху пацярпелі ад рэвалюцыі двары польскіх паноў. А „карамі" былі: катаваньне вінаватых, а йшчэ часьцэй зусім нявінных сялян, масовые разстрэлы, паленьне цэлых вёсак з усенькім меньнем жыхараў, засуджаных гэтак на голад і холад..

Вось якая была першая сустрэча польскіх войск з беларусамі. Няма ведама, да чаго давяла-бы далейшая гаспадарка банд Довбора на Беларускай зямлі, калі-б нямецкіе окупацыйные ўласьці, баючыся як агню народнага паўстаньня проці наездчыкаў, не абязброілі-бы і ня вывязьлі з краю „давборчыкаў".

Нямецкую окупацыю ў Беларусі, як ведома, замяніла на кароткі час савецкая ўлада, каторая ў свой чарод прымушана была уступіць месца пад націскам войск Польскай Рэчыпосполітай, ведзеных пад вярхоўнай камандай колішняга рэвалюцыянера і члена польскае социялістычнае партыі, а цяпер начальніка польскае дзяржавы, Язэпа Пілсудскага. Адгэтуль пачынаецца новая фаза ў беларуска-польскіх адносінах: беларусы маюць дзела не з сваімі панамі-палякамі, ня з іх наёмнымі служкамі кшталтам Довбора-Мусьніцкага, ня з тэй ці другой групай або партыяй, а з усей буржуазіяй



Польшчы, арганізованой у незалежную дзяржаву,— з польскім буржуазным урадам. Уся буржуазная Польшча адкрыта пачала барацьбу з беларускім народам.

Праўда, ўваходзячы на зямлю Беларускую Язэп Пілсудскі зьвярнуўся „да грамадзян колішняга В. Князьства Літоўскага" з адозвай, у якой паміж іншым чытаем:

„Польскае войска, каторае я прывёў з сабой, каб скінуць панаваньне гвалту і насільства, каб скінуць уласьць нязгодную з воляй насяленьня краю,—войска гэтае нясець усім вам вызваленьне і свабоду: Я хачу даць вам магчымасьць разьвязаць унутраные нацыянальные і рэлігійные справы так, як вы самі захочаце—бяз ніякага гвалту ці націску з боку Польшчы" (адозва з 22 красавіка 1919 г.).

Але ўжо самы зьмест гэтых слоў паказвае на захватніцкі характар польскага наступленьня. Бо-ж гутарка тутака йдзе адно толькі аб разьвязаньні спраў унутраных. Што гэта значыць? А гэта значыць, што пан Язэп Пілсудскі загадзя разсудзіў, што край, каторы ён называе „колішнім В. Князьствам Літоўскім" і каторы складаецца з этнаграфічнае Літвы і Беларусі, мае быць далучаны да Польшчы. Пан Пілсудскі сьвядома маўчыць аб тым, што і Літва і Беларусь маюць права самы разьвязваць ня толькі свае ўнутраные, але і замежные справы, справы свайго дзяржаўнага істнаваньня; маўчыць ён хітра і аб тым, што абедзьве гэтые старонкі вустамі ўсяго свайго насяленьня высказалі ўжо сваю волю, абвяшчаючы будаваньне ўласнае дзяржаўнасьці. І гэтак-то ён аб'яўляе вайну дзяржаўным ідэалам народаў, якіе быццам-то прыйшоў вызваляць!

Што так, а не інакш трэба разумець адозву Пілсудскага, паказваюць яго заявы, зробленые ім мне асабіста ў гутарках, якіе мы вялі, калі на запрошаньне старшыні польскае рады міністраў я прыехаў з Парыжу ў Варшаву дзеля перагавораў аб беларуска-польскіх адносінах. У адказ на маё дамаганьне, каб Польшча прызнала незалежнасьць Беларусі і яе ўрад, назначаны Радай Рэспублікі, пан Пілсудскі сказаў мне: ён, бач, хоча памагчы вызваліць Беларусь спад уласьці Расеі, але з прычыны таго, што антанта беларускае дзяржаўнасьці не прызнае, ён бачыць толькі адзін спосаб на гэта: прызнаньне антантай тэй граніцы Польшчы, якая істнавала на Усходзе да 1772 году, — іначай кажучы: прылучэньне Беларусі да Польскае Рэчыпосполітае.—„Ваша справа,—тлумачыў мне далей Пілсудскі,—залежыць ад таго, як будзе разьвязана справа украінская і літоўская. Калі на маіх фланках—палудзенным і паўночным—усё пойдзе добра, тады і справа беларуская разьвяжацца сама сабой, аўтоматычна. З Украінай цяперака

трудна што-колечы зрабіць з прычыны становішча антанты. Вось, я і маю на воку нёкаторые ходы ў адносінах да Літвы“.

Гэта гутарка была ў восені 1919 году,—а хутка выявілася, якіе гэта палітычные „ходы“ меў на думцы Пілсудскі. У Вільні яго давернік, капітан Славэк, каваў інтрыгі проці незалежнасьці Літвы, закідаючы іх сеці на Коўну і падгатаўляючы тамака польскую змову проці літоўскага ўраду. Змова гэная была ў пару выкрыта літвінамі і разстроена,—але падземную работу Славка вялі далей яго замясьціцелі ажно да мамэнту заняцьця Вільні чырвоным войскам і прымусовага прызнаньня Польшчай гэткай нялюбай незалежнасьці Літвы.

Адначасна з „ходамі“ ў адносінах да Літвы Пілсудскі вельмі сьціпна выкарыстаў цяжкое палажэньне галоўнага атамана Украіны, Пятлюры, каторы пад націскам войск Дэнікіна быў прымушаны шукаць сабе прыпынку на суседняй Польскай зямлі. За абяцанку аружнае помачы Пілсудскі прымусіў пятлюраўскі ўрад зрачыся на карысьць Польшчы украінскае часткі Галічыны з местам Львовам, а такжа Валыншчыны і часьці Падольля.

Незадоўга перад падпісаньнем умовы з Пятлюрай адбылася і абвешчаная мне Пілсудскім „аўтоматычная“ разьвязка беларускага пытаньня. Проста: „Цывільнае Упраўленьне Усходніх Зямель“ у Вільні апавесьціла, што Рада Беларускае Народнае Рэспублікі распускаецца,—хаця і пасьля гэтага абвяшчэньня Рада і ня думала лічыць сябе распушчанай і сваей работы ня кідала. Калі-ж пасьля ўсяго гэтага я разарваў усялякіе дыплёматычные зносіны з польскім урадам і хацеў вярнуцца ў Парыж,—дык польскіе ўласьці мяне ўжо за межы Польскае дзяржавы ня выпусьцілі, інтэрнуючы ў Варшаве і гэтак нарушаючы асьвенчанае вякамі права нятыкальнасьці дыплёматычных прадстаўнікоў.

Тут гожа адзначыць характэрную акалічнасьць. У пратаколе засяданьня Цантральнае Беларускае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны з 25 чэрвеня 1919 году мы чытаем, што беларускай дэлегацыі, каторая езьдзіла ў Варшаву дзеля выясьненьня адносін польскага ўраду да беларускае нацыянальнае працы, нейкі пан Енджэевіч даў афіцыяльны адказ, што гэткая праца можа быць дапушчана толькі тады, калі Рада адрачэцца ўсялякіх зносін з урадам Луцкевіча. А колькі месяцаў пасьля гэтага польскі ўрад запрашаў таго-ж Луцкевіча на перагаворы ў Варшаву...

Як беларускае грамадзянства углядалася на „крэсовую“ („акраінную“) палітыку пана Пілсудскага, паказвае рэзалюцыя Цантр. Белар. Рады Віл. і Горадз. з 17 верасьня 1919 г., з якой даю вось гэтые галоўные пункты:

„Пасьля ўсестаронніх дэбатаў, у якіх высказаліся ўсе сябры Рады, (пленум Рады) прыйшоў да перакананьня і знайшоў патрэбным падкрэсьліць, што:



....2) Рожные кірункі польскай палітычнай думкі, пачынаючы ад народнай дэмакратыі і канчаючы партыяй польскіх соцыялістаў, па пытаньню аб стварэньні незалежнай Беларусі даволі выразна высказаліся ў тым сэнсе, што абшары на ўсход ад Польшчы да р. Бярэзіны, а можа і да Дняпра ёсьць польскіе землі і іх трэба далучыць да Польшчы, а на ўсход ад гэтых рэк ёсьць расейскіе землі. Такім чынам усе польскіе грамадзянскіе і палітычне кругі саўсім ясна сталі на дарогу падзелу Беларусі і няпрызнаньня яе незалежнасьці.

....Дзеля гэтага Цантральная Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны лічыць, што:

....2) .. (становішча польскага ураду) дае шырокую магчымасьць анэксыяністычна настроеным элемэнтам польскага чыноўніцтва і грамадзянства правадзіць у жыцьцё палітыку далучэньня часьцей Беларусі да Польшчы і палітыку полонізацыі окупованнай часьці Беларусі.

3) Такое палажэньне змушае Раду Віленшчыны і Горадзеншчыны трымацца ў адносінах да Польшчы вельмі асьцярожнай тактыкі.

4) Дзеля забаспечаньня Беларусі ад анэксыяністычных замахаў імпэрыялістычна настроеных нашых суседзяў і дзеля арганізацыі адпору гэтым суседзям: а) найхутчэй склікаць Раду Беларускай Рэспублікі і яе міністраў, б) увайсьці ў перагаворы з засяляючымі Беларусь іншымі народнасьцямі дзеля змаганьня з анэксыяністычнымі і імпэрыялістычнымі замахамі са стараны ўсякіх суседзяў Беларусі“.

Аднак, польскі ўрад і начальнік дзяржавы не зварочвалі ніякае ўвагі ані на гэту рэзалюцыю, ані на пастановы крыху пазьней скліканай на звычайную сэсію Рады Рэспублікі, каторая пацьвярдзіла йшчэ раз акт 25 марца 1918 году аб незалежнасьці Беларусі. Наадварот, старшыня польскае рады міністраў, пан Скульскі, маючы на мэці абаламуціць увесь палітычны сьвет, пазволіў сабе зрабіць у соймовай камісіі загранічных спраў на засяданьні 22 красавіка 1920 году сьвядома фальшывую заяву, быццам прадстаўнікі беларускага народу за нейкіесь уступкі нацыянальнага характару прысталі на самаупраўленьне Беларусі ў межах Польскае дзяржавы. Проці гэнай урадовай брахні як менскіе, так і віленскіе беларускіе арганізацыі падалі цьвёрды пратэст. Сабраўшыся на сход 30 красавіка таго-ж году прадстаўнікі Рады Віл. і Горадз. і ўсіх беларускіх устаноў места Вільні аднагалосна заявілі, што

„1) Беларускі народ і ўсе прадстаўляючые яго арганізацыі цьвёрда стаяць, як і да гэтай пары, за дзяржаўную незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі згодна з актам Рады Беларускае Народнае Рэспублікі з 25 марца 1918 г.

„2) Ніякіе „самаупраўленьні“ без дзяржаўнае незалежнасьці беларускага народу не здаволяць.

„3) Ссылка п. Скульскага на беларускіх павадыроў, каторые быццам-то згаджаюцца на праектаваную польскім урадам разьвязку беларускага пытаньня, ні ў якім прыпадку ня можа датыкаць адказных дзеячоў Віленшчыны і Горадзеншчыны, а тым болей прадстаўнікоў беларускае дзяржаўнае уласьці“.

Каб апраўдаць перад Эўропай свае захватніцкіе пляны, польскаму ўраду трэба было за ўсялякую цану паказаць, быццам насяленьне окупованых зямель само—з вольнай і непрымушонай волі—хоча прылучэньня да Польшчы. А як гэтага папраўдзі хацела адно толькі маленачкая частка насяленьня Беларусі—жменя тутэйшай польскай буржуазіі, а ўсе няпольскіе элемэнты, становячы прынамсі 90 прац. агульнага ліку жыхараў краю, цьвёрда бараніліся ад польскага захвату,—дык начальнік дзяржавы і яго ўрад, нарушаючы абвешчаную грамадзянам колішняга В. Князьства Літоўскага „свабоду“ ў разьвязаньні іх **у н у т р а н ы х** спраў, пачалі барацьбу з беларускім народам ня толькі ў межах дзяржаўнасьці, але і ў межах чыста ўнутранага жыцьця. І вось ад першага дня прыходу польскіх войск на Беларускую зямлю окупанты заводзяць нябывалы, нікім дагэтуль тут не практыкаваны, **б е л ы т э р о р**.

Першай ахвярай барацьбы польскае шляхты з беларускім народам аказалася Горадзеншчына, каторая ляжыць на дарозе з Варшавы ў Вільню і заселена пераважна праваслаўнымі беларусамі.

Напярэдадні адходу нямецкіх окупацыйных войск Горадзеншчына ясна паказала сваё жаданьне вызваліцца спад ярма польскіх паноў і іх прыслужнікаў-ксяндзоў. Пачалася барацьба сялян з панскімі „польскімі камітэтамі“, якіе былі пазакладаны па ўсіх паветах яшчэ ў часе панаваньня нямецкага рэакцыйнага ураду, ахвотна падтрымліваўшага іх. Сяляне і работнікі па валасьцёх і мястэчках пазакладалі свае „сялянскіе рады“, аб'яднаные праз дэлегатаў у павятовых радах. Гэтые арганізацыі, змагаючыся з панска-ксяндзоўскімі камітэтамі, здалелі ў большай часьці Горадзеншчыны ўзяць у свае рукі ўсю тамтэйшую гаспадарку і завясьці сваю адміністрацыю. Пешая і конная народная міліцыя добра бараніла жыцьцё і меньне жыхараў ад чысьленых разбойнікаў. Рады стараліся дастаўляць народу найпатрабнейшые тавары, апекаваліся бежанцамі і ваеннапалоннымі, каторые вярочаліся з Расеі і Нямеччыны, адкрывалі і падтрымлівалі свае беларускіе народные школы і т. д., ды наагул завялі гэткі добры лад і парадак, што нават нямецкіе ўласьці, пакідаючы наш край, шмат дзе здавалі ім павятовые касы і ўсе справы павету. Ладжаная гэтак **б е л а р у с к а я н а р о д н а я ў л а д а** была сольлю ў ваччу паноў і польскае буржуазіі. І вось ужо аружные банды польскага партызана Домбровскага, гэтак няўдачліва прабаваўшые заўладаць Вільняй пасьля выходу немцаў (у першых чыслах студзеня 1919 г.), падтрымліваючы пастаянны зьвязок з шляхтай і польскім урадам, прыступілі да разьбіваньня народнае арганізацыі. Польскіе аружные банды ўрываліся гвалтам да сялянскіх рад, білі іх членаў і працаўнікоў, зьдзекаваліся ўсяляк над імі, арыштоўвалі і гналі з сабой, кіруючыся да Польшчы. Касы рабавалі, дакумэнты нішчылі. Спакойнае насяленьне тэрорызіравалі. Па вёсках і мястэчках бралі ўсё, што папала пад рукі: хлеб, адзежу, вобуў, грошы, скаціну. У трэскучы мароз лавілі сялян на дарозе, адбіралі каней з санкамі, сьцягавалі кажухі, зьнімалі боты і голых і босых гналі прыкладамі да хаты. З ротмістрам Домбровскім злучыўся зямляўласьнік Біспінг—той, што быў забіў князя Друцкага-Любэцкага, за што расейскі суд засудзіў яго ў катаргу, ды пасьля эвакуацыі Варшавы ён выкруціўся з вастрогу і вярнуўся ў свой двор. Біспінг аказаўся яшчэ горшым за Домбровскага: дзеля помсты над акалічнымі сялянамі за рожные дробные правіннасьці ён прыводзіў да вёсак „карацельные экспэдыцыі“, абступаў хаты „вінавайцаў“, сам падпаліваў іх і не даваў нікому выйсьці, пакуль полымя не абніме ўсяе хаты і ратунак ня зробіцца немагчымым. Усё гэта—факты, запратаколеные горадзенскай сялянскай радай, беларускай управай, беларускім нацыянальным камітэтам у Горадні, апісаные ў горадзенскіх газэтах і ў кнізе К. Езавітава „Бѣлоруссы и поляки“, друкаванай, ведама, заграніцай і зьмяшчаючай багата цікаўных дакумэнтаў да гэтае справы.

Станоўча заяўляю, што польскі ўрад добра ведаў аб усіх гэтых фактах: ведаю ад тагачаснага паўнамочніка польскага міністэрства заграні́чных спраў у Горадні, Станіслава Івanoўскага, каторы сам быў абураны бандытызмам польскіх войск і пасылаў у Варшаву акуратные рэляцыі аб усім, што тутака рабіла я. А рэзультат быў такі, што пан Пілсудскі публічна дзякаваў Домбровскаму і яго бандзе за „адважную зашчыту усходніх акраін“...

Калі пачалося польскае наступленьне на Усходзе, калі ў польскіх руках апынуліся Горадня, Вільня, Менск,—тады тэрор проці беларускага насяленьня дайшоў найвышэйшае меры. **П і л с у д с к і, к о л і ш н і с о ц ы я л і с т, а д д а ў у с ю ў л а д у ў о к у п о в а н ы х з е м л я х п о л ь с к а й ш л я х ц е.** Ня гледзячы на запаведзь сказанай вышэй адозвы Пілсудскага, што да „Цывільнага Упраўленьня Усходніх Зямель“ ён будзе заклікаць „людзей тутэйшых, сыноў гэтае зямлі“,—уся адміністрацыя складалася з польскіх паноў або іх мястовых сваякоў, каторые ніколі ня лічылі сябе грамадзянамі гэтага краю і зусім ня рупіліся аб карысьць яго і яго жыхараў. Вось, гэтая шляхоцка-панская адміністрацыя, **п р ы с л у х а ю ч а я н я с о й м у, н я**

польскаму ўраду, а выключна і безпасрэдна самому Пілсудскаму, як галоўнаму начальніку аружных сіл, пачала адкрыта бароцца з беларушчынай ува ўсіх яе праявах, з усім тым, што быў стварыў мужыцкі народ беларускі. Пратаколы і бюлетэні Беларускае Цантральнае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, архівы беларускіх нацыянальных камітэтаў у Горадні, Вільні, Менску маюць багаты фактычны матэрыял, каторага хваце дзеля сапраўднага абвініцельнага акту проці польскае шляхты ў Беларусі і проці таго чалавека, каторы на зьдзіў лёгкамысна карыстаў з сваё ўлады ў адносінах да насяленьня окупованых зямель... З гэтых крыніц я чарпаў усё ніжэйпісанае.

Перш за ўсё шляхта, прыбраўшыся ў чыноўніцкае мундзіры, аканчацельна разагнала сялянскіе рады ўсюдах, дзе яны патварыліся самі сабой і куды бальшавіцкая окупацыя ніколі не даходзіла. Усіх раднікаў—пабітых, страшэнна скатаваных,—паўкідалі ў вастрогі, як „бальшавікоў." У бальшавізьме вінавацілі кожнага, хто так ці сяк быў зьвязаны з беларускай справай,—і зьдзекаваліся над ім дзіка, нялюдзка. Як прыклад можа служыць тое, што ўчынілі палякі з вядомым беларускім дзеячом, Лукашом Дзекуць-Малеем, з павету Крынкі-Лунна, Горадзенскае губ. Хворага на тыфус, ў 40-градуснай гарачцы і бяз памяці, яго выцягнулі з пасьцелі і некалькі вёрст гналі прыкладамі да найбліжэйшага вастрогу. Прост нейкім цудам вырабіўся ён ад сьмерці! Багата рэляцый аб зьдзеку польскіх ўласьцей над беларускімі дзеячамі далі асобы, каторым удалося ўцячы з польскіх вязьніц; матэрыялы гэныя былі ў свой час перададзены чужаземным дыплёматычным прадстаўнікам.

З грубой вязанкі дакумэнтаў, якіе я атрымаў ад беларускіх арганізацый, бяру першые з краю. А ўсе яны апавядаюць аб тым, як на практыцы выглядала гэная „свабода", каторую так урачыста абвяшчаў Язэп Пілсудскі...

Вось скаргі на выкіданьне окупацыйнай уладай са службы працаўнікоў-беларусаў. У Горадні выдалілі з урадовых устаноў усіх праваслаўных беларусаў (гл. рэляцыю Цантральнае Рады Горадзеншчыны за верасень 1919 году). У Слоніме тое-ж зрабілі з беларусамі-пачтавікамі, ў Лідзе—з чыгуннікамі і т. д.

Далей—скаргі на незаконные арышты, на конфіскацыю грошы, цэнных рэчы і др. Члена беларускага вучыцельскага саюзу ў Горадні, вучыцеля Антонава, арыштавалі нет ведама з якой прычыны ды пры гэтым забралі і назад не вярнулі грошы саюзу ў ліку 17.000 нямецкіх марок. У арыштаванага і высланага ў концэнтрацыйны лагер беларускага дзеяча Якавюка, члена Беларускае Цантральнае Рады Горадзеншчыны, сконфіскавалі колькідзесят тысяч. У часе обыску у арыштаванага ў Вільні члена Беларускага Нацыянальнага



Камітэту, Карабача, начальнік польскае контр-разьведкі разам з другімі жандарскімі афіцэрамі сконфіскавалі ўсе яго грошы ў ліку 6.700 руб. і вось якіе цэнные рэчы: гадзіннік з ланцужком, каўкаскую бурку, два кускі сукна на вопратку па 4 з палав. арш., адрэзак сукна на нагавіцы 1 арш. 10 вяршк., кусок скуры на падноскі да ботаў, ножык складаны, бутэльку францускага каньяку, 2 бутэлькі віна, два камплекты бялізны, скрынку цыгараў, прылады да пісаньня, 3 чайные лыжачкі. З прычыны пратэсту гаспадара польскіе жандарскіе афіцэры сперша былі пакінулі гэные два кускі сукна; але, завёўшы арыштаванага ў вастрог, трое з іх вярнуліся назад у яго кватэру і забралі пакінутае сукно... А дзеялася гэта ў начы з 7 на 8 мая 1919 году.

Калі ў Вільні і Горадні гэтак паступалі з людзьмі, каторым паводле іх грамадзянскага становішча было лягчэй даходзіць свае крыўды,—дык лёгка дагадацца, што вытваралася па вёсках, дзе на адно слова пана і ксяндза жандары гналі ў вастрог сялян цэлымі грамадамі. І аб гэтым сьведчаць дакумэнты. Гэтак селяніна з вёскі Шастакоў, пад Вільняй, Фалькевіча, нялічанае чысло разоў цягалі па турмах за тое, што ў часе нямецкае окупацыі паводле яго думкі была адчынена беларуская школа, што ня слухаў ксяндза і суседняга пана, працаваўшых дзеля апалячаньня беларускіх сялян, што змагаўся з польскай анэксыяністычнай агітацыяй і пяяў псальмы ў касьцелі па беларуску. Гэтага гаспадара-малазямельніка чыста зруйнавалі, ўсьцяж адрываючы арыштамі ад работы на ральлі.—А вось заява селяніна в. Падваранцаў, Тургельскай вол., Віленскага пав., Казіміра Шавэйкі, пададзеная Беларускаму Нацыянальнаму Камітэту ў Вільні 28 мая 1920 году:

„У 1912 гаду я быў узяты расейскім урадам на ваенную службу; ў 1917 гаду звольнены са службы па хваробе. Быў на хвабрыцы „Трэугольнік". Да хаты я прыйшоў у 1919 гаду, з таго часу тут і жыву на гаспадарцы.

„Бальшавіцкай агітацыяй, у чым мяне вінаваціць польская паліцыя, ніколі не займаўся, а толькі пры перапісях зяўсягды прызнаваў сябе беларусам. 13-га траўня быў арыштаваны жандарамі ў Тургелях на фэсьце, 15 траўня быў адпраўлены ў Вільню ў жандармэрыю, 16-га быў вызваны на дапрос. На дапросе мяне білі перш-наперш драцянымі нагайкамі, посьле білі па твару разоў 30 адзін з аднаго боку, другі з другога Потым счапілі рукі трыма палкамі; пры гэткай страшной муцы я паваліўся воб-зямлю. Тады яны білі мяне нагамі; потым, калі я троху ачунеў, то мяне ставілі пад электрычаства. Робячы ўсё гэта прымушалі, каб я прызнаўся, што я бальшавік.

„Пасьля гэткіх страшных мукаў я не магу нічога йшчэ і цяпер рабіць, я сусім расхварэўся, не магу рабіць нічога".

Жудасна чытаць гэтае жывое сьвядоцтва польскага тэрору... А такіх фактаў — бяз ліку! Многа сцэн яшчэ страшнейшых маглі-бы расказаць польскіе вастрогі ў Беларусі... На жаль, сьцены маўчаць, а нябошчыкі гаварыць ня могуць...

Вось жменя ведамасьцей аб тым, як польскіе ўласьці ў Меншчыне абходзіліся з арыштаванымі і як вялі сьледзтва. Ніжэйпісаные факты ўзяты з пісьма чалавека, каторы сам пабываў у польскім вастрозе ў Менску пры жандарскай варце № 6, папаўшы туды 2 чэрвеня с. г.

„Адну з найпершых мукаў становіць так-званая „бачносьць“: арыштаванага стаўляюць тварам да сьцяны, забараніўшы адварачывацца, і гэтак ён можа прастаяць колькі дзён. Гэткім спосабам мучылі сям'ю Богіных, якіе прастаялі на „бачносьці“ цэлую пару; а між імі была дзяўчынка-калека, дык і яе катавалі таксама... Далей, галоўны інструмэнт катаваньня—гэта нагайка гумовая з жалезам ці волавам унутры. Дзеля некаторай рожнароднасьці катаванаму сьціскаюць пальцы і рукі жалезнымі абцугамі і б'юць па каленах нагайкай або палкай. Страшнейшы інструмэнт — гэта гумовы калпак, каторы узьдзяваюць на галаву, і асаблівай прыладай ён гэтак крэпка сьціскае галаву, што ажно вочы на лоб вылазяць! Апрача біцьця нагайкамі і нагамі да утраты памяці, арыштаваных па самую шыю ставілі ў сьцюдзёную ваду—часамі на цэлую пару, ад чаго ўсё цела распухае. Адзін спаміж арыштаваных, нейкі Штром, апавядаў мне, што ў начы на 27 мая—болей-меней каля 11 гадзіны—яго паклікалі на дапрос. Яму задалі некалькі пытаньняў, на каторые ён, ня ведаючы, ня мог даць адказу. Тады яго пачалі катаваць. Катавалі ажно да раніцы ўсемі апісанымі спосабамі і пакінулі ляжучы на падлозе адно тады, як страціў памяць. Гэтак рабілі ў працягу тыдня некалькі разоў—цераз дзень. Сьляды нялюдзкага зьдзеку я сам сваімі вачыма бачыў на яго целі —Тое-ж было і з другімі арыштаванымі, як напрыклад: з Катом. Цыбульскім і жонкай яго, Розай Цыпкін, Соняй Тунік, Соняй Пікус, каторую білі да бязпрытомнасьці, а пасьля на ўвесь дзень паставілі тварам да сьцяны, ды яна абязсілеўшы звалілася на зямлю перад часам. Шмат іншых імёнаў ня ўспомню.—Да гэтага гожа дадаць, што арыштаваным даюць есьці адзін раз на дзень, а то і зусім ня кормяць; страва складаецца з паўфунта хлеба і кіславатае зупы — блізка чыстае вады. Бялізну зьмяніць з хаты прынасіць забаронена. Арыштаваные ўсенькіе дні сядзяць пад ключом — без прагулкі. Шмат хто хварэе, ці дастае мэлянхоліі“.

А вось бюлетэнь за чэрвень беларускага прэс-бюро, надрукованы ў № 2 часопісі „Пагоня“ (ў Коўні); ён дае гэткі спіс актаў польскага тэрору ў Меншчыне:

1. Усіх, як ёсьць, беларускіх сялян вінавацяць у бальшавізьме. Партыйные дзеячы арыштаваны. Арыштавалі і галаву партыі соц.-рэв. Тамаша Грыба і жонку яго.



2. У в. Харэвічах, Дукорскай вол., разстрэляны с.-р. Лебедзеў.

3. У в. Гарова легіянеры разьбілі 5 хат, а ўсіх жыхараў—старых, мужчын, дзяцей і жанок—сяклі розгамі.

4. Вёска Корсікі, Менскага пав., спалена; людзі ўсе разстрэляны.

5. У в. Летніцы, Менскага пав., ўсіх жыхараў білі нагайкамі, а трох разстралялі бяз ніякага суду.

6. У в. Загорках, Менскага пав., трох жыхараў узялі і саслалі ў катаргу.

7. У в. Вярэжа, Вярэжскай вол., Ігуменскага пав., ўсіх жыхараў білі нагайкамі, двох засяклі да сьмерці; чатырох разстралялі, ў тым ліку Андрэя Крывашока і Андрэя Каршуна

8. У Хутарскай воласьці, Ігуменскага пав., разстралялі бяз ніякага суду шасьцёх, засяклі на сьмерць трох жыхараў.

9. У Слуцкім павеці разстрэляны 36, арыштаваны 200 душ.

10. У в. Паляны жыхара Д. Сікорскага білі шомпаламі; яму далі 220 удараў.

11. У в. Дзедава, каля ст. Мікашэвічы, дзьве траціны жыхараў сяклі розгамі; засяклі на сьмерць некалькі жанок уцяжку.

12. У в. Ярэмічы, Навагрудзкага пав., была арыштавана ўся маладзёж да 26 гадоў.

Да ведамасьцей бюлетэню трэба дадаць адзначаны ўсімі краёвымі газэтамі факт, што ў Бабруйскім павеці палякі спалілі да-тла сем вёсак...

Біцьцё, зьдзек, падпалы, забойствы — бязмысные, нічым не апраўданые...—вось зьмест перагляданых дакумэнтаў. За што-ж б'юць? Вось адзін з нялічаных прыкладаў таго, за што білі і катавалі палякі беларускіх сялян; аб ім гаворыцца ў заяве Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, пададзенай II аддзелу 7 арміі 26. V. 1920. пад № 512. Чытаем тамака:

„24 траўня (мая) г.г. у вёсцы Адамчукі, гміны Міцкуны, Віленскага пав., арыштаваны былі грамадзяне Франук, Рафал, Бэрнард Янкоўскіе, Адам, Мацей, Антось, Дамінік, Людвіг, Міхал, Уладак Стафановічы і Броніс Тарашкевіч за тое, што Янкоўскі, як вясковы солтыс, ня мог выслаць фурманак дзеля таго, што фурманкі былі высланы і ў той час не вярнуліся. Калі хацелі арыштаваць Рафала Янкоўскага, то другіе сказалі: „арыштуйце і нас“. Тады арыштавалі ўсіх адзінаццаць чалавек, засадзілі у склеп, дзе іх моцна набілі, і адправілі ў Вільню. Юльян Янкоўскі прыйшоў да Вільні з дру-

гімі сялянамі, каб даведацца, дзе знаходзяцца арыштаваные, і спаткаў у Вільні на Полацкай вул. таго самага камэнданта жандармэрыі пастарунку ў Лаварышках, які арыштаваў і Юльяна Янкоўскага і адправіў у жандармэрыю".

А рэквізыцыі? Гэта быў адзін з найвялікшых цяжараў польскае окупацыі. Насамперш „рэквізавалі" бяз грошы і бяз ніякіх квітоў праходзіўшые на фронт часьці „братніх" войск. Яны бралі пераважна адну толькі жыўнасьць. За імі зьяўлялася жандармэрыя і тылавые часьці арміі, каторые проста рабавалі ўсё, што пападала пад рукі. Урэшці, тые астаткі, якіе сялянам удавалася укрыць і ад іх, забірала „легальная" рэквізыцыя... Вось, адзін з жмені дакумэнтаў — тыповы, падобны да масы другіх, але варты ўвагі затым, што даведзеные да роспачы сяляне просяць пераказаць іх скаргу чужаземным урадам!

„Мы ніжэйпадпісаные сяляне Дзісненскага пав., Мікалаеўскай вол., вёскі Калатушкава, просім Беларуска-Літоўскі Камітэт падаць да ведама заграніічных дзяржаў, што польскіе легіянеры бязглузднa рабуюць. У селяніна Андрэя Корбута разьбілі скрыню і ўзялі жаноцкіе опраткі, у селяніна Нікандра Пятроўскага ўзялі бяз ніякае рэквізыцыі карову, у Васіля Пятроўскага ўзялі сваю скуру на дзьве пары ботаў, Мацею Пятроўскаму бяз ніякае рэквізыцыі гвалтам зьдзерлі з плеч кажух, у Кузьмы Чалея забілі сьвіньню і гвалтам забралі. Вучыцелю Антону Чэрапу зьдзерлі фрэнч салдаты 24 палку. Тодару Шаўлюзе гвалтам зьнялі кажух. Раскватэраваные па вёсках салдаты бадай што-дня вымагаюць бульбы, мяса бяз ніякага прыказу і грошы ня плоцяць".

9. XII. 1919. (Подпісы).

Больш за ўсё цярпела ад рэквізіцый насяленьне ваколіц далей на ўсходзе. Вялізарные цяжары была прымушана нясьці Меншчына,—ды на жаль адтуль маю менш дакумэнтальных матэрыялаў.

Побач з арыштамі беларускіх дзеячоў і зьдзекаваньнем над імі, побач з разгромам беларускіх арганізацый, побач з эканамічным уціскам, окупанты пачалі также **непрымірымую барацьбу** з усім тым, што становіць аснову разьвіцьця народу і яго дабрабыту: **з беларускай прасьветай.** Барацьба гэная вядзецца на ўсім окупованым абшары пад кіраўніцтвам цантральнае окупанцкае ўлады.

У Горадні істнавала беларуская прагімназія. Яна памяшчалася ў будынку, дадзеным беларусам горадзенскім мястовым самаупраўленьнем. Вось, 15 верасьня 1919 году—якраз у часе экзаменаў—окупанцкіе ўласьці груба ўварваліся ў гэту школу, разагналі вучняў, гвалтам пазабіралі і вывязьлі да польскіх школ навучные помачы, ды пры гэтым пабілі кіраўніка прагімназіі і адну вучыцельку. Вучыцялёў, каторые



мелі кватэры ў школьным будынку, павыкідалі даслоўна на вуліцу. Тое самае зрабілі і з вучыцельскім саюзам, каторы там-жа памяшчаўся. А будынак гэны палякі аддалі пад польскую клерыкальную школу сёстраў Назарэтанак..

У Будславі, мястэчку Віленскай губ., па загаду віленскага акружнага школьнага інспэктара, доктара Вэнслаўскага, была зачынена істнаваўшая тамака ўжо некалькі гадоў беларуская гімназія. Будынак гімназіі, пабудаваны за крывава зробленые беларускіе народные грошы, забралі пад польскую гімназію. Калі-ж у Вільню прыехала дэлегацыя ад акалічных сялян з просьбай, падпісанай больш чым 500 асобамі, каб пазволілі адкрыць гімназію нанова,—доктар Вэнслаўскі становуча адкінуў просьбу, кажучы: „У вашым мястэчку павінна істнаваць польская гімназія. А як для дзьвюх гэткіх школ мястэчка гэнае лішне малое, дык на істнаваньнэ беларускае гімназіі я ні ў якім прыпадку пазволіць не магу!"

Беларускіе народные школы, істнаваўшые ў мамэнт окупацыі краю палякамі, былі „зліквідованы" вельмі проста: палякі адмовіліся плаціць з краёвых грошы пэнсіі вучыцялём і вучыцелькам. Усё-ж такі іншые з іх уперліся і працавалі далей без урадовае падмогі — жывучы з сялянскіх складак і дзе-якой помачы ад беларускіх арганізацый. А здараліся і факты, якім у культурнай старонцы прост нельга даць веры: гетак у **Сакольскім павеці, Горадзенскае губ., вучыцелька Волька Якуцянка памерла на сваім становішчы з голаду!** (гл. бюлетэнь Цантр. Белар. Рады Віл. і Горадз. з 12. X. 1919—№ 5).

Дзякуючы асаблівым заходам беларускіх дзеячоў удалося ўрэшці дабіцца ад окупантаў таго, што школьным інспэктаром быў разасланы цыркуляр, каб адкрывалі беларускіе школы там, дзе гэтага зажадае само насяленьне адпаведным грамадзкім прыгаворам. На жаль, цыркуляру гэтага нігдзе не спаўнялі. Рэляцыя Горадзенскай Беларускай Школьнай Рады адзначавае, што на мясцох польскіе школьные ўласьці заўсёды знаходзілі адгаворку, каб недапусьціць адкрыцьця вымаганай народам Беларускай школы. Бывалі такжа і прыпадкі адмовы нічым не абаснованай. Напрыклад, школьны інспэктар сакольскага павету проста заявіў вучыцелю В. Казлоўскаму, што ня дасьць пазваленьня на адкрыцце ня толькі ўрадовае беларускае школы, але і прыватнае, грозячы яму арыштам, калі ня кіне заходаў аб школу. Той-жа школьны інспэктар сказаў групе вычыцялёў-беларусаў, што ён можа дапусьціць істнаваньне толькі польскіх і расейскіх школ і гатоў зацьвярджаць на становішчы вучыцялёў у апошніхі беларусаў, каторые згодзяцца вучыць па расейску. Калі-ж вучыцелі адказалі яму, што яны, як беларусы, лічаць магчымым вучыць адно толькі ў сваей матчынай мове, — школьны інспэктар крыкнуў: „Ну, дык і едзьце ў сваю Беларусь, калі

яна недзе істнуе. Я тутака не пазволю!"—Іваноў-жа школьны інспэктар Беластоцкага павету заявіў вучыцялём-беларусам П. Касьцюку і М. Куршэлю, што ў Беластоцкім пав. ніякіх беларусаў нямашака, а ёсьць толькі каталікі і праваслаўные.—Але найбольш рэзка бароўся з беларускімі школамі школьны інспэктар Горадзенскага павету, Возьняковскі, прысланы сюды, як і многа другіх, ажно з Галічыны. У працягу лета 1919 году на яго рукі былі пададзены 24 сельскіе прыгаворы з жаданьнем адкрыцьця беларускіх школ. Усе яны бяз ніякіх адгаворак пайшлі проста пад сукно. „Пачакайце,—пахваляўся ён,—паеду я туды сам, дык мужыкі як-бач інакш запяюць!" З прычыны таго, што горадзенскіе арганізацыі прыслалі мне копіі гэтых прыгавораў ў часе маей бытнасьці ў Варшаве, я пры першай гутарцы з Пілсудскім (у лістападзе 1919 г.) расказаў яму аб гэтым дзікім факце і падаў гэныя копіі. Пілсудскі уважліва прачытаў усё і урачыста абяцаўся заняцца гэтай справай. Аднак, ажно да часу выхаду палякоў з Беларусі (значыцца, да палоры ліпня 1920 г.!) ні адна з прошаных школ ня была легальна адчынена.

У восені леташняга году беларускіе вучыцельскіе курсы ў Вільні выпусьцілі некалькі сот кандыдатаў на становішчы вучыцялёў у беларускіх школах, — аднак, польская ўлада на кожным кроку рабіла ім прашкоды ў адкрываньні школ. Хто асьмеліўся паехаць у вёску і падбіваць сялян, каб адкрылі ў сябе школу, таго жандары ўраз-жа арыштоўвалі і высылалі. Дык дзіва нямашака, што беларускіе школы ў Віленскім окрузе (у б. Віленскай і Горадзенскай губ.) заміралі або працавалі патайна. Спаміж 153 беларускіх школ, істнаваўшых тутака пры немцах, пад польскім панаваньнем асталося толькі 17 легальных і каля 40 тайных. Тайная беларуская школа, на каторую цікуюць польскіе жандары, каб яе разагнаць, — вось сымвол тае „свабоды", аб каторай гаварыў пан Пілсудскі ў сваей адозве!

Трэба тутака заўважыць, што аб фактах дзікога разгону „тайных" беларускіх школ іншые воласьці ў асобах усіх сваіх „солтысаў", ці стараст, падавалі да ведама соцыялістычных дэпутатаў у польскім сойме (напр. Лопеніцкая воласьць, Горадзенскае губ.). Аднак, ніводзін польскі соцыяліст не падняў свайго голасу ў сойме дзеля абароны правоў беларускага народу: галава П. П. С., Ігнат Дашынскі, гэны крык аб помач проста хараніў у сваім архіве...

А вось найнавейшае здарэньне — бадай ці не апошняе перад выхадам польскіх войск з Беларусі. Шырока вядомы беларускі працаўнік, Янка Станкевіч, на аснове паразуменьня з Цывільным Упраўленьнем Усходніх Зямель, маючы ўсе патрэбные паперы і пазваленьні, прыехаў быў у Ашмяну выкладаць беларускую мову, літэратуру, географію і гісторыю



на летніх вучыцельскіх курсах. Вось-жа тамтэйшые польскіе ўласьці як стой арыштавалі яго і пасадзілі ў вастрог, а ўсе яго рукапісы і беларускіе вучэбнікі зніштожылі. Толькі ўцечка ўласьцей перад прыходам чырвонае арміі вярнула Станкевічу волю.

Адначасна з беларускай школай окупанты прасьледавалі і беларускую мову. Оф іцыяльна яна была прызнана роўнай другім краёвым мовам. Але на практыцы гэнае прызнаньне было толькі пустым словам. Так, ужо ў канцы верасьня 1919 году Цантральная Беларуская Рада Віл. і Горадз. мела гэткі багаты матэрыял у гэтай справе, што была прымушана падаць окупантам пратэст проці ўсё часьцейшых і часьцейшых прыпадкаў адкіданьня ўрадовымі чыноўнікамі просьб, пісаных па беларуску (—а яны-ж, як „людзі тутэйшые", не маглі бараніцца незнаёмствам мовы!), а так сама з пратэстам проці прымушаньня рабіць усялякіе надпісы на заявах, бланках, вывесках, пячатках і т. п. канечна па польску. На почце, тэлеграфе і тэлефоннай станцыі ў Вільні быў вывешаны прыказ, каб усе працаўнікі гаварылі між сабой ня йначай, як толькі па польску.

Каб народ ня мог быць павядомлены аб усіх вышэйсказаных фактах, окупанты зрабілі зусім немагчымым істнаваньне беларускае прасы. Мала было вострае вайсковае цэнзуры: адна за аднэй былі зусім закрыты ўсе часопісі ў беларускай мове ў Вільні і Горадні. Бязмала ўсе рэдактары іх за найдрабнейшые правіннасьці пападалі ў вастрог, калі не пасьпявалі ўцячы ў свой час заграніцу. На беларускіе кніжкі і газэты, хаця яны друкаваліся з пазваленьня польскае цэнзуры, окупанты ўглядалі ся, як на „нелегальную літэратуру." Тых, хто іх шырыў між народам, сэдзілі ў турму ня толькі па вёсках, але і ў самай Вільні: так, тутака 11 ліпня 1919 году жандары арыштавалі на вагзалі сэкрэтара Беларускага Нацыянальнага Камітэту, Мадэста Яцкевіча, за тое, што ён раздаваў ваеннапалонным прайшоўшые праз цэнзуру часопісі „Беларуская Думка" і „Беларускае Жыцьцё". Апошняе нават выяўляла вельмі ярка сваю прыхільнасьць да Польшчы; але ўжо тая акалічнасьць, што яно друкавалася па беларуску, была дастатачнай прычынай дзеля прасьледаваньня часопісі.

Пад той самы час запалоханаму ўсім гэтым насяленьню гвалтам накідалі польскую мову і нацыянальнасьць, прымушаючы пры помачы маральнага гвалту (праз касьцёл і ксяндзоў) падпісаваць ліхой славы дэкларацыі аб „дабравольным" далучэньні краю да Польшчы. З ведама і са згодай галоўнага начальніка ўсіх польскіх аружных сіл да окупованых зямель плылі вялізарные сумы грошы на падтрыманьне працы паўурадовых „Стражы Крэсовай" і „Камітэту Абароны Крэсаў" (К. О. К.). Гэтые арганізацыі ў сваей працы карысталіся

з усяго адміністрацыйнага і вайсковага апарату і, атрымаўшы ад ураду паўнамоцтва раздаваць патрабуючаму насяленьню тавары першае патрэбы, за соль, цукер, газу, сельскагаспадарскіе машыны і т. п. „здабывалі“ подпісы за прылучэньне Беларусі да Польшчы... І вось, пад той час, як агенты Пілсудскага ў хаўрусе з ксяндзамі-палякамі вялі анэксыйную агітацыю зусім свабодна, — беларускіе дзеячы былі зусім пазбаўлены магчымасьці працаваць і пашыраць у народзе свае ідэі. Ведама, аб працы беларускіх левых партый не магло быць нават гутаркі. На вёсцы часта даволі было прызнацца, што ты — беларус, даволі было выпісаваць часопісі і кніжкі ў беларускай мове, каб цябе пачалі праськледаваць і пасадзілі ў вастрог. — І ў такой абстаноўцы пан Пілсудскі падгатаўляў свой „плебісцыт“ у окупованых землях!

Барацьба з усім тым, што паказвала, што насяленьне краю — ня польскае, што жыве тут у пераважываючым ліку народ беларускі, каторы дабіваецца поўнага вызваленьня спад чужацкага ярма, — гэта толькі адна часьціна праграмы работы польскае ўлады, пастаўленай у Беларусі панам Пілсудскім. Другая часьціна гэнае праграмы — гэта п а в а р о т п а н о ў д а п а к і н у т ы х і м і д в а р о ў, падняцьце іх дабрабыту і вагі ў краёвым жыцьці, ўрэшці—помста над сялянамі, каторые ў часе нябытнасьці паноў асьмеліліся карыстацца дворнай зямлёй і лясамі. Шляхта, прыбраўшыся ў чыноўніцкіе мундзіры, маючы пад сваей камандай польскіх жаўпераў страшэнна зьдзекавалася над сваімі колішнімі прыганятымі караючы іх за тое, што былі адважыліся падняць руку на сваіх старых паноў. Усе вастрогі—асабліва ў Меншчыне — былі перапоўнены гэткімі „праступнікамі“, хаця ўся іх віна была ў тым, што ў часе панаваньня савецкага ўраду яны карысталіся правамі, дадзенымі ім гэным урадам. Вырабіцца ад праськледаваньня, часта абсалютна ні на чым не аснованага, мог толькі той, хто меў свайго роду „сьвядоцтва благанадзёжнасьці“ ад ксяндза. Плябаніі абярнуліся як-быццам у жандарскіе упраўленьні, каторые выдавалі „благанадзёжнасьць“ адно толькі „добрым каталіком“. Гэты звычай з вёскі перайшоў і да места: тутака атрыманьне якой-колечы службы залежала ў поўнай меры ад таго, як глядзеў на цябе пробашч тваей парахвіі!...

Беларускі народ з натуры вельмі цярплівы і пакорны,— але толькі да-часу. Аднак, калі яму адчыняцца вочы на праўду, калі перапоўніцца мера цярпеньня і крыўды, — гэта маўчлівая шэрая маса становіцца грознай. Даволі тады аднае іскры, каб узьняўся пажар. — Шляхоцкае чыноўніцтва разумела гэта вельмі добра і рабіла ўсё, каб да гэтага не дапусьціць. З гэтай мэтай і быў уведзены той белы тэрор— асабліва проці беларускіх дзеячоў: беларускую вёску „ачышчалі“ ад небасьпечных элемэнтаў, да якіх залічалі кожнага



хто хоць крыху перарос свой народ інтэлігенцыяй і сьвядомасьцю. Асаблівая увага была зьвернена на тых сялянскіх сыноў, каторые былі мобілізованы ў пачатку сусьветнае вайны і, ўважаючы на школьную адукацыю (вучыцельская сэмінарыя, 4 клясы гімназіі, гарадзкая школа і т. п.), былі аддадзены вучыцца на афіцэраў на кароткатэрміновых курсах. Пасьля берасьцейскага міра іх звольнілі з войска, і яны пачалі варочацца да родных хат. Вось, гэтых-то людзей, як расейскіх афіцэраў, окупанты сыстэматычна вылаўлівалі і партыямі адсылалі ў Польшчу—ў концэнтрацыйные лагеры, дзе яны дзясяткамі вымiралі ад голаду і хвароб. Каго-ж не чапіў тыфус і сьмерць, таго прымушалі ехаць служыць у арміі Дэнікіна!

Соткі людзей вывязьлі гэтак з Беларусі. Але гэта не загамавала выбуху гневу даведзенага да роспачы народу. Там-сям пачынаюць гінуць бяз сьледу жандары, прыходзячы ў вёскі ўвадзіночку ці ў двох. У Берасьцейскім окрузі, дзе ў ваколіцах Кобрына быў чынны беларускі паўстанчаскі атрад з 500 душ, польская ўлада была прымушана расфармаваць усю жандармэрыю: гэтак зненавідзіў яе народ! У Меншчыне пачынаюцца адкрытые выступленьні сялянства проці окупантаў. На аднэй станцыі на чыгунцы пад самым Менскам збунтаваўшыеся сяляне напалі на польскіх чыноўнікаў і выразалі іх у пень. У Слуцку выбухае праўдзівае паўстаньне. Чым бліжэй да фронту, тым часьцей здараюцца рэвалюцыйные выбухі. Гэта нічога, што ў Менску генарал Шэптыцкі дзясяткамі публічна р зстрэлівае паўстанцаў. Нічога, што ў тым-жа Менску сьмерцяй карае 15-гадовых хлапчукоў за прыналежнасьць да вучнёўскіх рэвалюцыйных кружкоў. Нічога, ўрэшці, і тое, што ён дае прыказ пускаць з дымам усенькіе вёскі разам з дабыткамжыхараў за тое, што нехта стуль належаў да паўстаньня. Народ ужо бачыць ясна, што польскае панаваньне — гэта паварот шляхоцкае ўлады, паварот паншчыны з заведзеным ужо на ўсім абшары окупацыі прыгонам за „правіннасьць“ або за карыстаньне з панскага выгану і т. п. Народ пачынае разумець, каму патрэбна прылучэньне Беларусі да Польшчы,—і вось рух, каторы ў самым пачатку быў чыста соцыяльны, прыбірае ўсё больш характар нацыянальны, варожы да польскае дзяржаўнасьці.

Вось цікаўнае дзеля характэрыстыкі польскае окупацыі здарэньне. Здаецца, у красавіку с. г. з прычыны крывавага тэрору, заведзенага ў Меншчыне генаралам Шэптыцкім (—ён вялікі пан з Галічыны), да гэтага прадстаўніка польскіх аружных сіл пайшла дэлегацыя ад беларускіх арганізацый места Менску з прафэсарам Вацлавам Іваноўскім напярэдзі. Калі-дэлегаты, паміж іншым, сказалі генаралу, што паленьне вёсак грозіць голадам усяму краю,—Шэптыцкі ус-

хапіўся, стукнуў кулаком па стале і крыкнуў:—„Я спалю ўсю вашу Беларусь, калі мне будзе патрэбна!“

У анэксыйнай рабоце польскага ўраду беларускі народ справядліва бачыў жаданьне бараніць польскі „стан уладаньня“, гэта значыць: бараніць двары польскіх паноў. Цяпер, калі кінем вокам на ўвесь пражыты ўжо час, калі разважым значэньне аддачы ўсяе ўлады ў Беларусі ў рукі польскага панства і поўнага адсоўваньня ад яе „інародцаў“—адвечных гаспадароў краю, калі ўрэшці прыпомнім сабе, што генеральны камісар, Юры Асмалоўскі, даваў выключна палякам манапольные концэсіі на скупку і вываз за граніцу лёну, дрэва і наагул ўсялякага натуральнага багацьця зямлі Беларускай,—вось цяпер можам зусім цьвёрда ўстанавіць, што окупацыя Беларусі польскім войскам папраўдзі мела на мэці ня „выкінуць панаваньне гвалту і насільства,“ а наадварот: умацаваць гвалт і насільства польскае шляхты над беларускім народам.

Тут я ізноў сягаю памяцьцю да аднэй з маіх гутарак з Язэпам Пілсудскім, і іншые словы яго, сперша здаваўшыеся незразумелымі, набіраюць цяпер вагі і яснасьці. Гэтак, у лістападзе 1919 году Пілсудскі паміж іншым мне сказаў: „Гэтымі днямі былі ў мяне вашы „зубры.“ З гутаркі з імі бачу, што яны ня лішне варожа да вас настроены. Вось, было-б добра, каб вы здалелі з імі згаварыцца і супакоіць іх у справе зямлі.“—Гэта рада ў вустах Пілсудскага здалася мне тады дзіўнай, але я над ей не задумываўся, бо мне і ў галаву ня прыходзіла шукаць угоды з натуральнымі ворагамі беларускага народу, ды йшчэ „супакоіваць“ іх аб долі іх двароў. Пасьля я даведаўся, што польскі ўрад—перш, чым пачаць перагаворы з урадам Пятлюры,—ультыматыўна вымагаў ад яго забаспечаньня ненарушымасьці польскае зямельнае ўласнасьці на Украіне. І гэта расчыніла мне вочы: чаго галава польскага ўраду вымагаў ад Пятлюры, тое Пілсудскі, як „соцыяліст“, радзіў мне... праз сымпатыю“ да беларусаў!

Існавала йшчэ адна прычына, дзеля каторай польская буржуазія і яе хаўрусьнікі жадалі анэксіі Беларусі. Зямельная рэформа, ухваленая устаноўчым соймам, хаця і суліць паном высокую плату за ўзятую ад іх зямлю, ўсё-ж такі пагражае шляхоцкаму панаваньню ў самой Польшчы. У міністэрскіх габінэтах шмат думалі аб тым, як зрабіць, каб і сялянам польскім даць зямлю, і захаваць панскіе двары—хоцьбы на абрэзаных абшарах. Бо польскі ўрад ужо аблічыў, што, калі зямельная рэформа будзе праведзена ў шырокіх разьмерах, дык панскіе двары павінны счэзнуць з зямлі! Ізноў-жа, калі пакінуць двары ў руках шляхты, дык ня хопіць зямлі дзеля надзяленьня ажно чатырох мільёнаў польскіх малазямельных і беззямельных сялян. Вось, гэные чатыры мільёны



душ і пастанавілі ўрэшці высяліць на абшары, дзе сяляне ня так густа сядзяць: паўтара мільёна ў Познаншчыну і паўтраця—на „ўсходніе акраіны“. Але пастановы польскага сойму маглі-б быць абязацельны для Беларусі толькі тады, калі-б гэты край быў офіцыяльна прылучаны да Польшчы. З гэтага і вынікае жаданьне ўжо нават не фэдэрацыі Беларусі з Польшчай (бо тады Беларусь мела-бы свой уласны ўрад і сойм), а проста аддачы Беларускай зямлі на ўласнасьць Польскай Рэчыпосполітай.

Гэтак выглядаюць мэты польскага ваеннага паходу на ўсход: забаспечаньне цэласьці польскіх дворных абшараў у Беларусі—з аднаго боку, ратаваньне шляхоцкае ўласнасьці ў самой Польшчы—з другога. А як народ беларускі, сьвядомы сваей нацыянальнай асобнасьці і палітычных правоў, добра зарганізаваны і дужы моцай свае арганізованасьці, лёгка мог разьбіць усе пляны польскае буржуазіі, дык польская буржуазія ў першы чарод і пачала барацьбу з беларускім рухам да нацыянальнага і соцыяльнага адраджэньня. І вось, абаламучаные фальшывымі клічамі аб „вызваленьні братніх народаў з чужацкае няволі“, польскі мужык і польскі работнік ішлі ў цесных радох, з аружжам у руках, на ўсход і па загаду сваіх начальнікаў несьвядома таптали і гвалтавалі правы „вызвалянага“ беларускага народу, руйнавалі асновы яго дабрабыту—і ўсё гэта дзеля трыумфу і панаваньня польскае шляхты!.. І гэта не канец: па загаду тых-жа начальнікаў сваіх польскіе войскі, пакідаючы Беларусь, нішчылі па дарозе ўсё, што ўдалося, спалілі Менск, абрабавалі Вільню, зруйнавалі Горадню. Гэтак буржуазная Польшча мсьцілася над беларускім народам за няўдачу яе захватніцкіх плянаў!..

Каб-жа польскі працоўны народ урэшці пазнаў праўду і зразумеў, якім нягодным мэтам несьвядома служыў! Каб-жа тые няшчасьці, якіе сустрэлі цяпер буржуазную, шляхоцка-панскую Польшчу, расчынілі польскім сялянам і работнікам вочы так, як няўдачы на фронці ў сусьветнай вайне расчынілі вочы народам колішняй царскай Расеі! А тады моʻ і споўніцца думка аб братнім жыцьці польскага народу з яго суседзямі, абапёртым на гэткім пекным, ды гэтак збэшчаным польскай буржуазіяй прынцыпе: вольные з вольнымі, роўные з роўнымі!

Вільня, ў ліпні 1920 г.



